# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 9 (607)**
**Верасень 2016 г.**


# 25 год Незалежнасьці Беларусі

Дарагія землякі, дарагія беларусы! Віншую Вас зь вялікім нацыянальным сьвятам – 25 гадавінай Незалежнасьці Беларусі!

25 жніўня 1991 года аднагалосным галасаваньнем Вярхоўнага Савету БССР Беларусь набыла незалежнасьць і сувэрэнітэт. На наступнай сэсіі, у верасьні, былі прыняты Бел-Чырвона-Белы Беларускі Сьцяг і гістарычны Герб “Пагоня” ў якасьці афіцыйных сымбаляў дзяржавы, а краіна атрымала назву Рэспубліка Беларусь. Адзначу важнае палажэньне дзеля дакладнага разуменьня рацыі Беларускай дзяржавы і Незалежнасьці.

Аналіз фактаў, гістарычны вопыт і рэчаіснасьць паказваюць, што ў жніўні 1991 года сталася найвялікшая палітычная падзея ў гісторыі Беларусі за апошнія 200 гадоў яе акупацыйнага выжываньня. Зьдзейсьнілася перамога нацыянальнай ідэі – створана рэальная незалежная Беларуская дзяржава – суб’ект міжнароднай супольнасьці, прызнаная ва ўсім сьвеце, з усімі атрыбутамі сувэрэнітэту палітычнага і дзяржаўнага існаваньня. Незалежная дзяржава БЕЛАРУСЬ адбылася. Яна сталася. Да гэтага быў шлях працягласьцю ў два стагодзьдзі, на якім у магілах змаганьня засталіся мільёны беларускіх жыцьцяў, аддадзеных за свабоду і волю.

**Дзень 25 жніўня 1991 года ёсьць сакральнай датай беларускай гісторыі і рэальнай датай нашай Незалежнасьці,** якая нараджалася як нацыянальны змагарны працэс, які ўпершыню моцна засьведчыў сябе 25 сакавіка 1918 года аб’яўленьнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).

Умовы нямецкай, а потым бальшавіцка-расейскай і шавіністычна-польскай акупацыяў не дазволілі разарванай на часткі БНР сфармавацца ў дзяржаву. Спроба стварэньня БНР была ліквідаваная акупантамі. Але заставалася ідэя і ідэалы БНР, якія паўсталі зноў на хвалі новага беларускага Адраджэньня ў канцы 80-х – пачатку 90-х гг. мінулага стагодзьдзя і зьвязаныя зь дзейнасьцю Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”. 27 ліпеня 1990 года была прынята Дэкларацыя аб Дзяржаўным сувэрэнітэце БССР. Праз год, 25 жніўня, яна набыла статус канстытуцыйнага закону незалежнай дзяржавы.

Усе тры даты змаганьня за Незалежнасьць будуць ушанаваныя ў будучай, вызваленай ад антынароднага рэжыму, вольнай Беларусі.

Незалежнасьць нашай краіны была дасягнута на працягу кароткага ўздыму беларускага нацыянальнага Адраджэньня (няпоўныя сем гадоў), пасьля цёмнай ночы савецка-маскоўскага вынішчэньня, калі ворагі Беларусі ўжо не чакалі яе супраціву.

Гісторыя наглядна пацьвердзіла, што здабыцьцё дзяржаўнай незалежнасьці ёсьць для нацыі справай першаснай і важнейшай, чым здабыцьцё ўлады. Антынародная ўлада нішчыць нацыю, але яна ня можа ліквідаваць нацыянальную дзяржаву, не ліквідаваўшы адначасна самую сябе. Таму дзяржава і сувэрэнітэт існуюць нават пры антынародным рэжыме, і гэта дае магчымасьць людзям зьбіраць сілы супраць варожай улады, гуртавацца, мець нацыянальную пэрспэктыву. Пры адсутнасьці дзяржавы нацыя ня мае сувэрэнітэту, каб рэалізавацца як кансалідаваная супольнасьць. Незалежная нацыянальная дзяржава патрэбна ўсім: і грамадзтву, і любой уладзе. Гэта агульная каштоўнасьць. І калі яна пад пагрозаю, то нават антаганістычныя сілы становяцца ў яе абарону, а здрада дзяржаве кваліфікуецца як злачынства.




Незалежнасьць здабыў нацыянальны авангард народа – Беларускі Народны Фронт “Адраджэньне”. Але народ за кароткі час не пасьпеў яшчэ цалкам салідарызавацца, каб рашуча падтрымаць авангард у змаганьні за ўладу. У выніку кіраўніцтва краінай засталося ў старой каляніяльнай камуна-савецкай намэнклятуры, якая падрыхтавала прыход да ўлады антыбеларускага рэжыму ўнутранай акупацыі. Гэты антынацыянальны разбуральны рэжым існуе ўжо 22 гады. Але 22 гады існуе таксама і незалежная дзяржава Рэспубліка Беларусь.

Шануйма нашую незалежную Беларускую дзяржаву і высока ўхвалім змаганьне і справы людзей гістарычнага пакаленьня, якія дамагліся дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі і зьбераглі нашу нацыянальную будучыню.

*працяг на бачыне 2*

# Жніўеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 13-га жніўня 2016-га года на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў чарговы, жніўеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Ён быў праведзены ў Цэтральным Парку, як традыцыйна ўжо праходзяць сходы арганізацыі ў ліпені-верасьні. Збор удзельнікаў быў каля ўваходу ў парк каля 72-й вуліцы і 5-й авэню.

Гэтым разам на сход сабраліся каля 20 сябраў “Пагоні” й гасьцей. Яны прайшлі да традыцыйнага ўжо месца сустрэчаў – маляўнічай пляцоўкі пры хвоях і валунах над возерам недалёка Бэтэзда-фантану, убаку ад шумных тлумаў наведвальнікаў. Надвор’е ўжо з самай раніцы было надзвычай сьпякотнае.

Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка распавёў пра нядаўна прайшоўшы Марш Паняволеных Народаў і для тых, што прыйшлі на сход аргаізацыі першы раз, спыніўся на мэтах і прынцыпах арганізацыі. Ён адзначыў імкненьне захаваць і падтрымаць беларускую прысутнасьць у Нью-Ёрку, згадаў пра таварыскія і палітычныя імпрэзы, якія ладзіць Згуртаваньне, пра традыцыйныя сьвяты Гуканьне Вясны і Купальле, у якіх бяруць удзел сябры “Пагоні”.

Таксама ён распавёў пра юрыдычную дапамогу для новапрыбылых зь Беларусі, перш за ўсё дапамогу інфармацыйную, і пра старонку на сайце арганізацыі ў сеціве, дзе ёсьць зьвесткі пра адвакатаў, якія рэкамэндаваныя, і якія не рэкамэндаваныя для паслугаў пры зьмене статусу ў ЗША.

Таксама былі згаданыя мітынгі й дэманстрацыі летась пры штаб-кватэры ААН падчас Генэральнай асамблеі, і штогадовыя мітынгі ў памяць Чарнобыльскай катастрофы, што ладзяцца заўсёды 26 красавіка. Дарэчы, падзеньне рэактару падчасу мантажу яго на Астравецкай АЭС нагадвае нам пра тое, што наступствы Чарнобыля застаюцца актуальныя і па сёнешні дзень, болей як 30 год пасьля аварыі.

Сп. Віталь Зайка заклікаў прысутных карыстаць з нагоды прысутнасьці на імпрэзе землякоў, не саромецца, заводзіць знаёмствы, пытацца пра інфармацыю па сваіх жыцьцёвых праблемах, такіх як пошук працы, пошук жытла, вызначэньне месца і спэцыяльнасьці для вучобы, шуканьне фінансавай дапамогі для навучаньня і падобнага.

Затым прамоўца адказаў на пытаньні прысутных, падзякаваў за ўдзел і заклікаў прыйсьці на наступны сход арганізацыі, які адбудзецца на тым жа месцы на прыродзе 10-га верасьня.

***Віталь ЗАЙКА***



## 25 год Незалежнасьці Беларусі

***працяг з бачыны 1***

Гэта ўсе вольныя беларусы таго часу, але найперш – гэта нацыянальны палітычны авангард, які ўзьнік у барацьбе з акупацыяй і камунізмам і стаўся ў патрэбным часе і патрэбным месцы, валодаў ведамі, палітычнай воляй, інтэлектам і спрацаваў бездакорна, бо ў тых умовах, будучы абсалютнай меншасьцю ў парлямэнце, недакладныя дзеяньні (альбо бязьдзеяньні, альбо памылкі) сталіся б фатальнымі і каштавалі б нам будучыні.

Гісторыя падаравала Беларусі шанец у кароткі мамэнт. І ён быў скарыстаны дзёрзка і разумна. У той дзень, пасьля правалу камуністычнага путчу ў СССР (а іншага такога дня ўжо б і не было) перамагчы камунізм, забараніць камуністычную партыю ў Беларусі і сьцьвердзіць незалежнасьць краіны ў камуністычным парлямэнце можна было толькі галасамі самых дэпутатаў-камуністаў, якіх было 90 адсоткаў у Вярхоўным Савеце і якія стаялі за Савецкі Саюз. Дэпутацкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту складала толькі 8 адсоткаў дэпутатаў парлямэнту. Па ўсіх клясічных палітычных і матэматычных раскладках перамога тут немагчымая. І, тым ня менш, – яна адбылася, прытым татальная і разгромная для камуністаў. І гэта ёсьць факт. Гэта ёсьць факт, які можна назваць цудам, але ён – вынік выверанай палітычнай тактыкі, веданьня псыхалёгіі, узроўню розуму і волі, і дакладных палітычных паводзінаў.

Быў момант, калі фронтаўцы недапусьцілі незапланаванага выступу і пагналі з трыбуны Першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева, які падтрымаў ГКЧП. Быў момант, калі старшыня Апазыцыі БНФ, у адказ на сабатажныя паводзіны камуністаў у залі, зьвярнуўся ў адкрытым этэры да беларускага народу па падтрымку і заклікаў пачаць усеагульную нацыянальную забастоўку, каб паставіць на месца ўжо зноў нахабную дэпутацкую камуністычную намэнклятуру. “Усе дзеяньні народу, – было сказана тады, – накіраваныя на падтрымку Канстытуцыі, на падтрымку дэмакратыі, накіраваныя супраць саўдзельнікаў у дзяржаўным перавароце, зьяўляюцца законнымі і яны апраўданыя.”

Былі мамэнты, калі ўсё вырашалі нават сэкунды. І яны таксама былі скарыстаныя, калі на алтар Незалежнасьці, напрыклад, каб забраць галасы камуністаў, быў кінуты імпэрыяліст Ельцын, які на той час, у тыя дні ў барацьбе за ўладу супраць Гарбачова красаваўся ў ролі пераможцы камунізму і ГКЧП, быў (і небезпадстаўна) сьветазарным героем дэмакратыі сярод саюзных савецкіх дэмакратаў.

Час паказаў, хто такі быў Ельцын пасьля дасягненьня ўлады. Тады, у пэрыяд ягонага трыюмфу, нам толькі заўчасна (раней чым можна) прыйшлося сказаць праўду пра яго і пра Расею, але ў патрэбны час і ў неабходны момант, каб

***Закачэньне на бачыне 3***

# Футбольны матч Беларусь – Украіна

На адной зь пляцовак Брукліну 21-га жніўня адбылася таварыская гульня па футболу паміж беларускай зборнай Нью-Ёрку і зборнай “Украінскі Нью-Ёрк”. Гульня была цяжкая і напружаная з-за сьпякотнага надвор’я. Зь беларускага боку было шмат нападаў у першым тайме, і нашыя хлопцы ў асноўным гулялі на палове супернікаў. Нягледзячы на сьпёку, у нядзелю сабралася шмат заўзятараў, прынесьлі сьцягі, сьпявалі песьні, і няспынна крычалі: “Беларусы наперад!”.

Беларуская зборная пачала трэніроўкі толькі пару месяцаў таму. Украінская каманда прафэсійнейшая і ў сёньняшнім складзе гуляе дастаткова даўно. Судзіў матч афіцыйны арбітар Фэдэрацыі Футболу Ўкраіны Любамір Харко.

Першы тайм не адзначыўся галамі, але ўжо на 12-й хвіліне другога тайму ўкраінцы праравалі абарону беларускай каманды і забілі першы гол. Хутка адбылася кантратака беларусаў, і Дзьмітры Трыньдзюк забіў гол у вароты ўкраінцаў. Затым быў яшчэ адзін гол ад каманды супернікаў. І больш беларускай зборнай забіць не атрымалася, Хоць і былі яшчэ напружаныя моманты, але лік больш не мяняўся, і сустрэча камандаў скончылася зь лікам 2:1 на карысьць украінцаў.

Відэа матча можна паглядзець на Youtube: *https://www.youtube.com/watch?v=pjVF8Kv4zgo*

Зараз беларуская зборная Нью-Ёрку пляnуе наступную гульню і прагне ўзяць рэванш ва “Ўкраінскага Нью-Ёрку”. Немагчыма не падкрэсьліць, што гэта быў гістарычны матч, бо гэта была першая гульня беларускай зборнай Нью-Ёрку (Belarusian New York) ад часу аб’яўленьня Беларусі незалежнай краінай.

Трэба адзначыць, што хлопцы набывалі форму за свае ўласныя сродкі, трэніраваліся бяз трэнера і, нягледзячы на цяжкасьці, змаглі паказаць добрую гульню. У нашую зборную ўвайшлі Даніла Зоры (варотчык), Андрусь Асадчы (капітан), Вячаслаў Аднавораў, Ільля Куніцкі, Дзьмітры Трыньдзюк, Павал Суарэз, Дзяніс Шкураценка, Антон Ільлюшчанка, Віктар Юркін, Сяргей Халадзінскі, Дзьмітры Кергет, Ільля Пісарэўскі, Аляксандар Солад, Ігар Маханёк. Гэта імёны нашых зорак. Верым у іхнюю перамогу і чакаем наступныя гульні!

Калі Вы хочаце далучыцца да зборнай, або наведаць яе гульні, усю інфармацыю можаце знайсьці ў групе ў фэйсбуку ***Belarusian Soccer Team NYC***.

**Ганна ШАРКО**

*Відэа* ***Віктара Дударава****, здымак* ***Пятра Кіцула*** *(Ukranian New York)*



## 25 год Незалежнасьці Беларусі

***заканчэньне з бачыны 2***

напалохаць намэнклятуру Ельцыным і зрушыць шалі ў бок незалежнасьці Беларусі (я маю на ўвазе свой выступ пад заслону Сэсіі перад галасаваньнем за незалежнасьць). І шалі зрушыліся.

І ня мелі потым ніякага значэньня для Беларусі (як ня мелі ніколі) інфантыльныя абурэньні і піск прамаскоўскіх “дэмакратаў”.

Тут агучу некалькі правілаў, якія даказаў на практыцы (дзеля палітычнай тэорыі) Беларускі Народны Фронт.

1. Каб сказаць праўду ў патрэбным месцы і ў патрэбны момант – трэба яе ведаць.

2. Палітыка – ёсьць мастацтва немагчымага. Тое, што ў палітыцы магчымае, зьяўляецца не мастацтвам, а палітычнай руцінай.

3. Змагацца за свабоду і волю трэба заўсёды, нягледзячы на магутную сілу ворага.

4. У барацьбе за свабоду і волю трэба ўзьняць сьцяг свабоды і волі.

5. Трэба шанаваць свой народ.

6. Не ўступаць у саюз зь нечысьцю.

Тыя Дэпутаты Незалежнасьці, якія ў пачатку 90-х гадоў, будучы ў абсалютнай меншасьці, вызначалі станоўчыя вынікі дзейнасьці Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, тыя дэпутаты складалі аснову новага вольнага нацыянальнага палітычнага клясу Беларусі. Антыбеларускі рэжым, што ўладкаваўся пад кантролем Масквы ў незалежнай Беларусі як працяг улады савецкай намэнклятуры, растаптаў пэрспэктывы разьвіцьця палітычнай эліты нацыі. На паверхню ўсплыў сурагат. Але справа Дэпутатаў Незалежнасьці Народнага Фронту жыве. Яна стала агульнанацыянальным здабыткам. Яна яшчэ адродзіцца ў новым вобразе, закрасуе ізноў і заўсёды, пакуль стаіць Беларусь, будзе шанавацца ў яе гісторыі.

І тут я хачу выказаць хвалу Дэпутатам Незалежнасьці і ўсяму пакаленьню 90-х гадоў, калі сталася Незалежнасьць нашай Айчыны.

Найперш адзначу тых, што ўжо не жывуць. Хвала ім і слава, і вечная памяць! Гэта Ігар Гермянчук, Ігар Пырх, Галіна Сямдзянава, Барыс Гюнтар, Генадзь Грушавы.

Гонар і павага нашым дэпутатам, што жывуць, дзейнічаюць, і шмат хто яшчэ ахвяруе сваё сэрца, розум і працу на сьветлы алтар вольнай Беларусі. Гэта Юры Беленькі, Сяргей Папкоў, Мікалай Крыжаноўскі, Аляксандар Шут, Сяргей Антончык, Сяргей Навумчык, Мікола Маркевіч, Мікалай Аксаміт, Лявон Дзейка, Лявон Баршчэўскі, Валянцін Голубеў, Пётра Садоўскі, Вольга Галубовіч, Сяргей Слабчанка, Уладзімер Заблоцкі, Лявонцi Зданевіч, Алег Трусаў, Віктар Алампіеў, Віктар Какоўка, Віталь Малашка, Павел Холад, Зянон Пазьняк.

Верма ў нашу Бацькаўшчыну. Верма ў наш вялікі гістарычны народ. Верма ў сьветлую будучыню вольнай Беларусі! Слава Айчыне!

*25 жніўня 2016 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# “Восень у Нью-Ёрку... Чаму яна здаецца такой прывабнай?”

У суботу, **17-га верасьня**, праект ***“Dzed Baradzed”*** шчыра запрашае беларусаў і іх сяброў на восеньскую забаўляльную вечарыну ў самае сэрца Грынвіч-Вілідж – **бар The Lantern**. Вечарына абяцае быць цікавай і захапляльнай, для вас будзе падрыхтаваны адкрыты танц-кляс у электра-сьвінг стылі, жывое арт-шоў ад ***Ellie Grin Art***, настольныя гульні (для тых, хто стоміцца танчыць) і яшчэ... прыходзьце і пабачце на свае вочы. Гарантую, што сумаваць ня будзеце! Спэцыяльныя госьці вечара – аўтэнтычны ***Dj Spinach*** і крэатыўны ***Dj miShaman***.

Усе, хто набудуць квіткі, аўтаматычна возьмуць удзел у лятарэі, дзе будуць разыгрывацца сэртыфікаты ад нашых спонсараў (***рэстаран “Colors”, iLash NYC, фатограф E.b. Zidentopff, квіткі на канцэрт Brutto і Ляпіса, Cream Berry accessories***). Толькі на нашай імпрэзе Вы зможаце пачаставацца беларускім традыцыйным напоем дамашняга гатунку ***Крамбамбуляй***!

**Дрэс-код:** элегантны штодзённы стыль (Самая прагожая пара атрымае падарунак).

**Узрост:** 21+ абавязкова патрэбна мець пры сабе дакумэнт з фота.

**Квіткі:** онлайн **$15** + падатак (**eventbrite.com** - назва *Autumn in New York*);
на ўваходзе **$20** да 10pm, **$25** пасьля 10pm (толькі наяўны разьлік).

**Калі:** **17-га верасьня**, дзьверы адчыняюцца а **9-й гадзіне вечара**.

**Дзе:** ***Bar The Lantern, 167 Bleecker Street*** (*паміж вуліцамі Thompson і Sullivan*), ***New York, NY***

Колькасьць квіткоў абмежаваная. Квіткі раздрукоўваць ня трэба, можна паказаць у электронным варыяньце.

Сачыць за навінамі імпрэзы можна ў суполцы Фэйсбука ***“Беларусы ЗША. Разам лягчэй”***, альбо пішыце на e-mail: ***sharkohanna@gmail.com*** ці тэлефануйце на нумар тэлефоа ***(732) 604-1171***.




## Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðâàíí³:

Г. Дзімітрава ....................60
Р. Леўчанкаў ....................60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”**
*Viktar Yedzinovich.*

***Шаноўныя сябры!***
*Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на наш бюлетэнь. (**гл. інфармацыю аб стане падпіскі на “Весткі й Паведамленьні” на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

# Наступны сход

## Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

адбудзецца ў суботу **10-га верасьня 2016 года** на Мангэтане ў Цэнтральным парку.

Сход пройдзе на пагорку ля вялікага возера (*The Lake with Boating*) з чаўнамі (паляна знаходзіцца на поўнач ад *Terrace Drive* і на захад ад *The Mall at Bethesda Fountain*) ля вялікіх скалаў-валуноў.

**ЗБОР** а **10.30** раніцы ля ўвахода ў парк пры 5-й авэню і 72-й вуліцы.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца, наведаўшы сайт* **pahonia.com**

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

Г. Дзімітрава ....................30
Р. Леўчанкаў ....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы ў інтэрнэце старонку **www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя артыкулы, водгукі й лісты.*